УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
С19

*Бібліятэчка часопісу "Дзеяслоў".*
*Выпуск 9.*
*Заснаваная ў 2006 годзе.*

Пераклад на ангельскую Веры Рыч
Рэдактар перакладаў Ірына Дубянецкая

Translated by Vera Rich
Edited by Iryna Dubianetskaja

**Сапач Т.**
Няхай не пакіне нас Восень : вершы = Do not abandon us, Autumn : poems / Тацяна Сапач. – Мінск: "Медисонт", 2008. – 76 с. – (Бібліятэчка часопісу "Дзеяслоў"; вып. 9.)

ISBN 978-985-6887-05-8.

Вершы "ветранай жанчыны" (Ул. Арлоў) Тацяны Сапач завяршаюць залатое XX стагоддзе беларускай паэзіі.

Poems by a 'flippant girl' (U. Arlou), Taciana Sapač bring to a close the golden 20th century of Belarusian poetry.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-6887-05-8.**

* * *

О, час пераможных шэсьцяў –
крышацца брукі ад маршаў!
Як не вітаць гэту музыку
сусьветнае мітусьні!..
Пара апантанага плёну –
зьбірайцеся і зьбірайце!
Як не вітаць гэту музыку!..
– Мне больш даспадобы дождж...
Складзены стрэлы Фэба,
і зьвініць, цяпер беспатрэбная,
павуціны цяціва між дрэў...
Няхай не пакіне нас Восень!

* * *

O time of victorious processions –
the pavements crackle with marches!
How can one not greet this music
of universal ado!...
The time of overbursting harvest –
Gather yourselves – and gather!
How can one not greet this music!
– Sweeter to me is the rain...
Put by are the arrows of Phoebus,
and there twangs, now unneeded,
a cobweb bowstring in the trees
Do not abandon us, Autumn!

## Зімовы верш пра любоў

Калі залемантуе завіруха,
і спатыкнецца ў чыстым полі вецер,
і стане чорна ў белым-белым сьвеце,
і я пачую ў дзьверы ціхі стук...
Чакайце! Будзе ўсё інакш –
спачатку
я шчыльна аканіцы зачыню,
на сем замкоў замкну цяжкія дзьверы,
згашу сьвятло і радыё прыцішу,
прыціснуся да цела цёплай грубкі –
а ўжо тады пачнецца завіруха,
і я пачую гэты ціхі стук...
Там будзе добры сябра мой стары,
здарожаны, скалелы і галодны, –
як мятлік, да майго прыб'ецца дому,
і ля дзьвярэй, на сем замкоў замкнутых,
пачне марудна, як сьвяча, канаць.
І Божа мой, які чароўны будзе вечар! –
то стук, то стогн парушыць цішыню,
завершыць зык мэлёдыі пра вечнасьць,
штурхне істоту у хаос любові
і жудаснай пакуты чалавечай!..

## Winter Love Poem

When the snowstorm starts swirling and mourning,
and in the open the wind starts stumbling,
and in the wide white world all turns to blackness,
and I perceive a quiet tapping at the door...
Wait, it will all be different –
to begin with
I shall close the window shutters tightly,
will lock the heavy doors with seven locks,
turn out the light, the radio turn down,
and press myself against the warm stove's body –
and only then the snowstorm will begin,
and I shall hear that quiet tap at the door...
And there will be a good old friend of mine,
all travel-worn, chilled to the bones and hungry –
he, like a moth, will drift into my house,
and by the door, closed with its seven locks,
he will begin his slow – just like a candle – dying.
And, dear God, how wonderful will be that evening,
a thud, a groaning that will rend the silence,
will make a melody of things eternal perfect,
impelling human being to the unseemly mess of love
and dreadful agony of being human.

# Савелію

Вядома, мілы дружа, я жыву
у доме, дзе усё здаецца дзіўным:
сюды не залятаюць матылі
і ластаўкі пад вокнамі ня лепяць
сваіх, нібы шкарлупкі, крохкіх гнёздаў.
Калі засохла бедная герань,
я выкінула з клеткай канарэйку,
затое згатавала тлусты крупнік,
яго прасіў прад сконам грозны муж.
Вядома, мілы дружа, тут няма
партрэтаў у цяжкіх драўляных рамах,
замест сьцягоў лунае на гаўбцы
блакітная самлелая бялізна,
а слуцкі габэлен праела моль.
Сюды ўначы завітвае хвароба
і носіць па кутах тэмпэратуру,
і пакідае па сабе салодкі пах
цім'яну, валяр'яны і нуды.
Вядома, дружа, вам утульна тут –
вы мне зямляк
ці колішні знаёмец,
і мой адповед вам ня будзе дзіўны:
я не люблю вас.
Я люблю Шапэна.

## To Savielij

Of course, my dear friend, you know, I live
in a house where everything seems strange:
into it no butterflies would wing
nor would swallows sculpt beneath the windows
their nests, as fragile as the egg-shells.
When the geranium – a poor thing – went dry
I threw away the canary with its cage,
and so I cooked the fatty barley broth
which my grim husband asked before he died.
Of course, my dear friend, here are no
portraits set in heavy wooden frames,
instead of banners, here on the balcony
linen is weakly flapping, pale blue,
and moth has eaten through the Slucak tapestry.
Here in the night-time illness comes to call,
takes fever round to corner after corner,
leaving in its wake a sweet aroma
of thyme and valerian and vomit.
Of course, my friend, you feel so comfortable here –
you are my fellow-countryman
or old acquaintance,
and my reply to you will not be strange:
I love you not.
I love Chopin.

## Сястра

Даўно за поўнач. Самая пара.
І я свайму здарожанаму брату,
ня верачы ні слугам, ні сябрам,
сама гатую горкую гарбату.
Ён мне чужынец, і яго сьцяжыны
далёка ад дарог, дзе я іду.
Ён сёньня госьць. І сёньня ён спачыне,
я не наклічу на яго бяду,
і буду ноч стаяць прад абразамі,
абы спакойны быў ягоны сон –
любоў і ціша стануць паміж намі,
і не ачнецца аніразу ён.
І раніцай, пасьля чароўнай кавы
і недарэчных разьвітальных слоў,
амыю твар сьляпой сьлязой гаркавай
і бласлаўлю юначае чало.
Калі ж памрэ ягоных крокаў рэха –
зьбяру сяброў і самых верных слуг:
хай поўняцца лясы і пушчы брэхам,
і апануе сьвет гарачы рух.
Тады – ляці усьлед, мая пагоня!
І утапчы ў забраную зямлю
таго, хто кінуў гэты лес і гоні,
таго, каго любіла і люблю.

## The Sister

Long after midnight. It is time, I see.
And for my own brother the wayfarer
with my own hands I'll brew the bitter tea,
trusting no friend nor servant to prepare it.
He is a stranger to me, and far distant
his path lies from the roads where I go.
He is a guest today. Can rest an instant,
and I'll not call down on him any woe.
Before the icons I'll stand, vigil keeping,
so that he slumbers peacefully this night –
Silence and love will be with us, and deeply
he'll rest, unstirring, till the morning light.
And in the morning, after charming coffee,
when clumsy words of parting have been said,
I'll wash my face with tears blind and bitter,
and pray for blessings on his youthful head.
And when his footsteps' echoes die, together
I'll gather servants and my friends most true,
May barking fill the woods and forests ever,
and ardent movement reign the whole world through.
Then, after him fly swiftly, my pursuers,
into the captured land then trample down
him who has left these woods and fields,
whom truly
I loved – and I still love – with love profound.

* * *

Надыйдзе сьнежань, і аднойчы ранкам
я раптам анічога не пазнаю:
адменіцца і дзень, і сьвет, і дом –
і я сябе, напэўна, не пазнаю...
Я азірнуся, і убачу люстра,
і занатую: там жыве павук;
ён дзень і ноч бязбожна выплятае
бязважкія карункі і узоры
на твары тонкім, чыстым і ўрачыстым,
знаёмым мне – і, можа быць, маім...
І я яго пазбаўлю асалоды
зьмяняць такое дзіўнае аблічча,
і я прыцісну мастака да рамы –
брунатнай рамы, грубай і старой.
Што будзе потым? –
будзе ведаць сьнежань,
які пабеліць мой самотны дом
і намалюе ў люстры павука,
што дзень і ноч бязбожна выплятае
бязважкія карункі і узоры
на твары тонкім, чыстым і ўрачыстым,
знаёмым, так... – і, можа быць, маім...

* * *

Snowy December will come, and one morning
suddenly there'll be nothing I recognize:
changed will be the day, the world, the house –
indeed, myself too I'll not recognize...
I shall look round, and I shall see a mirror,
and I'll take note: a spider's living there
and day and night it insolently weaves
its weightless lace and patterns, covering
that face, delicate-featured, clear and solemn,
familiar to me – and maybe, yea, my own...
And I shall then deprive it of the sweetness
of altering this beauteous countenance,
And I shall press that artist to the frame –
a brownish frame it is, rough-cut and old.
What will come after?
snowy December knows,
and will make white my solitary home
and on the mirror it will paint a spider
that day and night will insolently weave
its weightless lace and patterns covering
that face, delicate-featured, clear and solemn,
familiar, yes – and, it may be, my own.

## Адзінота

О, гэта ноч!.. Стамляюцца зьмяняцца
сьляпыя вочы вечных сьветлафораў.
І аціхаюць шолахі шалёных,
з абпаленымі крыламі, мятлух,
і ўладны над дарогай павадыр
няшчаснага вандроўніка-нябогі
са сьмехам і шкадобаю камечыць
ручнік, што зьвязваў рухі іхніх рук...
О, гэта ноч! І заміраюць шэпты
шчасьлівых і зьняможаных каханкаў,
і прачынаецца і тут гасьцюе сон.
І зараз мне няма куды сьпяшацца –
падлічаны учора страты ловаў,
і меч яшчэ ня высах ад крыві,
і, значыць, можна жыць цяпер спакойна.
Да часу! Будзе дзень і будзе дзея,
і той, хто быў сьляпы, відушчым стане,
і будзе наш нябога ўладаром...
А толькі мне няма куды ісьці,
і ўжо даўно няма куды ісьці –
там
нехта ёсьць,
і я яго баюся.

## Lonelines

Ah, this night. Blind eyes of the eternal
traffic lights now grow weary of changing,
Now the crazy rustling of moths
that singed their wings is growing quiet.
And the one who rules the road, the leader
of the wayfarer, wretched and hapless,
crumples up with laughter and with pity
the towel which tied the movement of their hands.
Ah, this night! And the whisper of the happy
and exhausted lovers fade and die...
And dreams awake, and stay here as guests.
And now there is nowhere that I must hurry –
yesterday the losses of hunting were counted,
and still the sword has not dried from the blood,
which means, that one can live this while in peace.
For now! The day will come, the deed will come.
and he who once was blind becomes a seer,
and our poor wretch becomes the ruler.
Only for me there is no place to go,
and long there's been no place for me to go.
Someone
is there,
and I'm afraid of him.

# Вясна

На бязладнай, парэпанай коламі вуліцы
анікога – адзін беспрацоўны вецер
ад нуды забаўляецца зь леташнім сьмецьцем.
Тут вясна. Тут найлепшых памкненьняў клады,
і над імі – панылае золата зораў.
Змрочнай ноччу нядрэмнае вока маё
праз шчыліну ў цесна сашчэпленым плоце
назірае людзей незьлічоныя тлумы,
што сюды пракрадаюцца цёмным завулкам.
Аціраючы з твараў салоную стому,
кожны звыклай работай заняцца гатовы:
ім патрэбна адно – каб забытыя мары
ад цяпла і дыханьня ўваскрэсьлі нанова,
бо іначай – навошта вясна настае?..
Але марна – заўжды
між скрываўленых пальцаў
асыпаюцца долу пясок і труха,
ды рыпяць у руках спарахнелыя косьці.
Пакрысе распаўзаецца шэры натоўп,
тым жа самым завулкам, ва ўтульныя норы,
аціраючы брудную вільгаць з вачэй.
Гэтак цягнецца кожную ноч
аж да раньня...
Рабакі! Я ня з вашага сьлізкага племя,
мы ніколі да мэты ня крочылі поруч,
нас і зараз ня лучыць сашчэплены плот,
і я цешуся – ведайце! – з роспачы вашай.
Немінуча аднойчы надыйдзе мой час,
калі скончыцца дзея раней, чым звычайна,
і тады я пакіну надзейны мой схоў,
і пад покрывам цемры прыйду да грудка,
дзе за трыццаць гадоў і чатыры вясны
не сатлела мая запаветная мара...

## Spring

On the disordered and wheel-rutted street
not a soul – only the unemployed wind
plays in its boredom with last year's rubbish.
Here is spring. Here's the graveyard of best intentions,
and above them the cheerless gold of the stars.
All the gloomy night long, my vigilant eye,
through a crack in the close-set fence
watches the countless crowds of people
slinking in through the dark alley-way.
Wiping their faces clear of salt tiredness,
they are all ready to do their accustomed work:
they need only this – that forgotten dreams
from warmth and breathing should rise again,
for otherwise, what good is the spring?
But all these is in vain, for ever and ever
through the bleeding fingers
sand and dust trickle and moulder away,
and crumbled bones creak in the hands.
Slowly the grey crowd crawls apart,
through the same alley-way, into their snug lairs,
wiping the eyes clear of dirty moisture.
This repeats every night, every night
until dawn...
Worms! I am not of your slippery tribe,
we never had a common destination,
even now the close-set fence does not unite us,
and I rejoice – know this! – in your despair.
But someday – this is certain – my hour will come,
when the deed is accomplished sooner than usual,
and then I shall quit my trusty hideout,
and shall come under cover of darkness
to the burial mound
where for the whole thirty years and four springs
my much-cherished dream has not mouldered away.

* * *

Мы – дзеці чорнага горада,
мы выйшлі зь ягонага чэрава,
мы сталі ягоным голасам,
а голас ня мае ценю.
Мы – дзеці бацькоў памерлых,
мы носім чорныя строі,
і нашыя грубыя рукі
павек не адмыць ад работы.
Мы – дзеці шалёнага места,
мы жыць выходзім апоўначы,
і ты, выпадковы вандроўнік,
як трасцы, баішся нас.
Мы – дзеці мінулага часу,
мы носім пад чорнай вопраткай –
пад робамі і бразготкамі,
пад сэрцамі з дроту і кратаў,
на белых, бы аркушы, душах
чырвонай крывёй красьлёнае –
ад нас адмыслова хаванае –
вашай радзімы імя.

* * *

We are children of a black city,
we have come out of its belly,
we have become its voice,
a voice that has no shadow.
We are children of dead parents,
we wear black clothes,
and our coarse hands are
never washed clean from toil.
We are children of a crazy town,
we go out to live at midnight
and you, a chance wanderer,
fear us like a plague.
We are children of a past era,
we wear under our black garments,
under our robes and trinkets,
under hearts of wire and bars,
on our souls, as white as paper,
traced in bright red blood –
deliberately hidden from us –
the name of your Motherland.

## Арлянятам

Ляціце да сонца,
ляціце да мора –
няма інакшага выйсьця,
ляціце, калі вам дадзена Богам,
а мне пакіньце маё:
неба ў брыжах заходу,
сьмяротна чыстае поле,
чорны крыж пры дарозе
ды ўрослы зялёны валун...
О, я ніколі ня ўбачу
асьветленых даляглядаў –
я тут, дзе вякую ўпарта,
аднойчы ўрачыста памру.
І здарыцца гэта пад вечар,
і неба ў брыжах заходу
нальецца дзікай крывёю,
апошнім промнем міргне –
як вока забітага воя,
салодкае сьвежае вока,
што стала маёй вячэрай,
як ён ля крыжа сканаў...

## To the Eaglets

Fly to the sun,
fly to the sea –
there is no other escape:
fly, if God thus ordained for you,
but leave to me what is mine:
the sky in the stripes of sunset
a dead-white open field,
a black cross by the road, and
a green boulder sunk in the earth...
Oh yes, I shall never see
those bright-lit horizons.
Here, where I stubbornly live my span,
I shall solemnly die one day.
And this will occur towards evening,
and the sky in the stripes of sunset
will fill with wild blood,
and blink with the last ray –
like an eye of a slain warrior,
a sweet and succulent eye,
which has become my dinner,
when he died by the cross...

* * *

– Паслухай, стары,
нам учора абвешчана воля,
і сяньня ад раньня
народам запоўнены пляцы,
наперадзе – радасьць,
якая нас век не пакіне,
і я назаўсёды з табой разьвітацца хачу...
– Паслухай, мой хлопча,
учора зіма пачалася,
і белыя вопраткі
чорныя дрэвы надзелі,
і шэранем ранішнім
ледзь прыцярушаны прорвы,
і холад хавае
ўсялякі ці прыпах, ці пах –
і так будзе доўжыцца
аж да вясновае ўлады –
тады на дарогах
адкрыюцца раны старыя,
як сонца сарве перавязкі...
Крывёю і брудам
вам станецца радасьць
і доўга чаканая воля.
А тут, пад зямлёй,
пад забросьнелай нізкаю стольлю,
на змрочнай сьцяне,
будуць мілыя блікі блукаць
маленькай, як жменька,
і вечнай – і вечнай! – надзеі...
... У кніжцы бяз вокладкі
і без апошніх старонак,
дзе вы, адмыслоўцы шалёнага часу,
жылі,
я сяньня замест закладкі
лісток пакладу
ад пекнай герані,
падобнай на кроў і агонь.

* * *

“Listen, old man,
yesterday freedom was granted us
and today since dawn
the squares have been full of people,
ahead is happiness,
which will never leave us
and I want to bid you farewell for ever.”
“...Listen, my lad,
yesterday winter began;
and the black trees
have put on white garments;
and the first morning hoarfrost
has scarcely covered the chasms;
and the cold is hiding
any scent or smell –
and so it will continue, on and on,
up until the spring’s reign –
then on the roads
old wounds will open
as the sun rips off the bandages...
And then your joy and
long-awaited freedom
will turn into blood and dirt...
And here, below the ground,
below the mouldy low ceiling
on the gloomy wall,
there will wander dear gleams
of the small as a handful
and yet everlasting hope...
Today, in the book with no cover
and without its final pages,
where you, the experts of the crazy time,
used to live,
I shall place, instead of a bookmark,
a petal
from a prety geranium,
which looks like blood and fire.”

* * *

Так, невыносна жыць на гэтай зямлі, калі без
цябе і крыху іранічных вершаў пра бэз,
ані да цябе непадобных і нават да
мяне ані не падобных, а толькі, бадай,
да нашых з табою магчымых дзяцей,
якім таксама – шкада... – ня будзе прасьцей
на гэтай зямлі.
Яна – па звычцы – завецца нашай,
а звалася некалі белай... Ідзіце на!.. шай-
таны, паскуды, крывыя, рагатыя, гады,
сьвіньні, якім даўно нічога “ня нада”,
абы вакол штурхаліся, жэрлі такія ж сьвіньні...
О, невыносна яшчэ... бяз Вільні.

* * *

Yes, it is so unbearable to live on this earth and lack
you and some a tittle ironic poems on lilac,
which are all quite unlike you, and me, too,
but may, perhaps, bear a certain likeness to
those children of ours who one day may be born,
and whose life in that land – alas – will not be borne
more easily. Our land –
people are wont to say –
but once was called white... Off with you, there! Sa-
tans, scum, horned ones, vipers, bent, obscene,
pigs, long-since 'not needed' on the scene,
save that pigs root round and gorge their fill
Ah, it is unbearable still... without Vilnia.

* * *

Часам мілосьці,
калі ўжо аціх лістападавы шал,
дайце мне вечар –
сыры, непагодлівы, шэры...
Восень, сястра,
апусьці залатыя заслоны –
нашага смутку
ніхто не павінен пазнаць.
Ах, гэты баль! –
пад аховаю згодных дажджоў
позьнія госьці
патрапяць прыйсьці незаўважна
і да паўночы
у лепшых уборах сваіх
хай прамаўчаць –
абы чулася музыка зьлівы.
Заўтра зіма.
Гэта сон, і спакой, і спагада.
Вам і ня варта
інакшых прытулкаў шукаць.
Дайце мне вечар!..
Я хочу апошняе слова
сёньня сказаць.

* * *

In the season of love,
when the whirlwind of leaves
falling down grew calm,
give me an evening –
grey, damp and bad-weathered...
Autumn, my sister,
let down your curtains of gold –
nobody ever
should know our intimate grief.
Ah, what a ball! –
under the cover of concordant rains
our late comers
will manage to come unobserved,
and till midnight –
wearing their best outfits –
let them keep silence,
so that the music of rain can be heard.
Tomorrow is winter.
This means calmness and dream and compassion.
You do not need to
explore other possible shelters.
Give me an evening!..
Tonight I am willing
to say my last word.

## Савелію

Аднойчы, ідучы звычайным шляхам,
зрываючы салодкія сьцяблінкі
смарагдавай пасьля дажджу травы,
ты раптам прыгадаеш мой радок,
і ў тахт хадзе пачнеш яго сьпяваць,
і радасна задзівішся: ого!
а песенька нішто сабе выходзіць...
Дальбог, у тым пустым, нікчэмным сьвеце,
дзе кожны з нас сьпявае сам сабою,
няма хвіліны даражэй за гэту.
Тады чаму, спытаеш, плачуць людзі,
што там і тут сустрэліся табе?
Савелій, дружа, растулі павекі –
няўжо ты не пазнаў сваіх сяброў?..
На ўсіх адна дарога ў строгі хорам,
там споведзі высокае сьвятло.
Але туды няўмольна не пускае
адступнікаў прадажных і паскудаў
маёй любові брама залатая.
Цябе даўно я ведаю,
праходзь.

## To Savielij

Some day, when walking by your usual path
and plucking sweet and sappy blades of grass
that shimmer emerald after the rain,
you'll suddenly recall my line of verse,
and start to sing it in time with your steps.
And you'll feel happily surprised: "Oho!
this song is turning out fairly well..."
Indeed, in our vain and futile world,
where each of us sings solely to himself,
there is no moment that can be more precious.
Then, you will ask, why do the people weep,
those whome you have encountered here and there?
Savelij, dear friend, open your eyes –
do you indeed not recognize your friends?
There is one road for all to the austere shrine,
there shines the sublime light of repentance.
But for those traitors and all foul apostates
the path is barred – however they may plead –
by the golden portal of my fervent love.
I know you for a long time –
so you enter!

## Вясна

Хто цябе намалюе,
бяссоньне вясновай начы?
Ты – дыханьне нахабнага ветаха
недзе ля вуха,
ты – спалоханы голас,
схаваны за лёгкай фіранкай –
ты бясконца маё паўтараеш імя,
ды нікуды ня клічаш...
Але ж праўда і тое,
што праўды на сьвеце няма.
Дык якая пячора нам стане
адзіным прыстанкам?
Дык які чалавек
нашым сябрам адважыцца звацца?
І, нарэшце, нашто мне
сапраўднае ваша аблічча,
мой штоночны, мой зьменлівы,
мой невядомы наведнік?
Покуль доўжаць бяссоньне
вясновыя новыя ночы,
вы сабе не шукайце інакшага,
лепшага схову.
Тут зацятая цемра
аблогаю легла ля сьцен,
каб аднойчы парушыць
старыя дзяржаўныя межы
сну і явы,
і звыклага страху,
і зморы...

## Spring

Who can paint you, ever,
O insomnia of the spring night?
You're the insolent waning moon's breathing
somewhere by my ear.
You're a frightened and frightening voice
from behind a light curtain –
you keep on repeating my name
but you call me nowhere.
Yet, the truth is
that there is no truth in this world.
So what cavern is there that will be
our only asylum?
And what person is there
that will dare to be called our friend?
And moreover, what good is
your true face to me,
O my nightly, my changeable,
ever mysterious guest?
While insomnia reigns
over those new spring nights,
don't you seek for yourself
any better protected hide-out.
Here the obstinate darkness
is lying in wait by the walls,
bidding its time to destroy
the old-established state borders
of dream and reality,
habitual fear,
and fatigue.

* * *

Заміж сьценаў і столі тут –
вецер і сьнег,
заміж сьвечак калядных –
ваўчыныя вочы...
Божа мой, калі ёсьць Ты на сьвеце –
то дзе?
І чаму гэтай роспачы бачыць ня хочаш?
Хто зламысьнік,
які падказаў накірунак
гэтым лёгкім маім,
але здрадлівым іртам?
Толькі вецер і сьнег...
І адзіны ратунак –
гэта вочы ваўчыныя
з бляскам нясытым.

* * *

Instead of the walls and ceiling,
here are wind and snow.
Instead of the Yuletide candles,
here are wolf eyes.
O my God, if Thou are in this world,
then where?
And why do Thou not wish to see this despair?
Who was that villain
who showed the direction
to my light
but treacherous ski?
Only the wind and the snow...
And the only escape
is the wolf eyes that gleam
with insatiate hunger.

* * *

У празрыстай цемрадзі,
калі праз заслону фіранак
у квадрат пакою праходзіць
фіялетава-жоўты прысмак,
я ведаю: імя ягонае – здрада.
І калі да ўсьмешлівых вуснаў
я падношу з нектарам келіх,
і нутро абрывае промень,
я ведаю: імя ягонае – здрада.
І калі паскудна сюсюкае
памяншальная форма імені –
у мяне ўжо няма імя,
і няма ўжо імя у здрады –
я ня ведаю, што ёсьць прысмак,
і куды распускаецца промень,
і навошта на вокнах фіранкі.

* * *

In the transparent darkness,
when the violet-yellow smack
penetrates into the square chamber
through the screen of curtains –
I know: its name is betrayal.
And when to my smiling lips
I raise a chalice of nectar –
and my entrails cut off the ray –
I know: its name is betrayal.
And when the diminutive form
of my name is lisping disgustingly –
I have no longer a name,
and there is no longer a name for betrayal –
I do not know what is this smack,
and where the ray has been dissolved
nor what are the window curtains for.

* * *

Дзень добры, мой самотны новы дом!
Будзь госьцяю, сястра, сяброўка – Восень,
заходзь, сагрэйся... там фатэль і плед,
і разам прычакаем белых часаў...
Пакуль ва ўладзе Сьнежня-рудафоба
не апынуўся заваконны сьвет,
згадаем словы самых сумных песень,
адновім яву самых мілых сноў.
Як соладка ўзірацца у вагонь
апошняй трапяткой пахучай сьвечкі –
і бачыць дзень мінулы і наступны,
і ведаць: наша права – зараз, тут,
і толькі так!.. І полымя ня рушыць
вялікай таямніцы напаўзмроку.
Адзіным – ноччу – стануць дол і неба.
Адзіным – жалем – станем мы з табой.

* * *

Good day to you, my new and lonely home.
Come as a guest, my sister, my friend – Autumn.
Come, warm yourself, here's an armchair and rug,
And we shall wait together for the white times...
Untill the world that lives beyond the window
is not at mercy of December the gold-hater,
We shall recall the words of songs most sad,
recover the images of dreams most sweet.
How pleasant is to stare at the flame
of the last flickering and scented candle –
and see the past day and the day to come,
and know: our truth and right is now and here,
and only thus!.. The flame will not disclose
the lofty mystery that is the twilight.
The earth and heaven will become one night.
And you and I will then become one sorrow.

* * *

Сьвята ніяк ня месьціцца
ў сьценах таго пакою,
дзе забыцьцё і пыл, і дыханьне тлену,
дзе на старых старонках –
нябожчыкі вершы,
куды паціху ўваходзіць
уладны спакой.
Тут мы дванаццаць гадоў
будзем згодна жыці
разам з малодшай дачкой
вялікай Ляноты...
Сьлед яе мяккіх лапаў –
то бруд, то срэбра,
плён маіх мілых дзён –
ці нішто, ці сон...
І не шкада, калі скончыцца век
паразай:
сьветлая старасьць –
калі ні сяброў, ні славы.
Яны – пераможцы,
і значыць, за імі праўда,
часовая праўда,
зусім ня вартая нас.

* * *

There is no room for the feast
within the walls of this chamber,
where's oblivion, dust and the breath of decay,
where deceased poems
linger on the old pages,
where is quietly entering
imperious calm.
Here for twelve years we
shall live in harmony
with the younger daughter
of great Indolence...
The track of her soft paws is
now dirt, now silver,
the fruit of my sweet days is
now nothing, now a dream...
No need to be sorry if the epoch ends
in defeat:
serene old age
is when there is no friends nor esteem.
They are the victors,
which means the truth is theirs,
a short-lived truth,
not worthy of us at all.

* * *

Зьмяшаньне забытых фарбаў –
няжоўтай і неблакітнай,
і часам празрыста-чорнай
з пранізьлівай і сьцюдзёнай –
у небе,
падзертым на паскі –
і гэта,
нарэшце,
дождж!..
Дрэва, поўнае зроку,
сьцяжына, поўная слыху –
насуперак сну і страху,
насупраць сьвятла і лёху –
і гэта,
здаецца,
я...
І пад палахлівыя крыкі
шматлюднай сям’і вераб’інай
мы ціха сыходзім з карціны –
з двух розных бакоў палатна –
і крышацца, быццам крыгі,
забыўшы на перасьцярогі,
задзіўленыя, зьнямоглыя,
глухія рамкі вакна.

* * *

Mixture of forgotten colours,
non-yellow and non-azure
and sometimes transparent black
with one piercing and icy –
in the sky
torn into strips –
and this
at last is
rain...
A tree full of seeing,
a path full of hearing –
despite dreams and dread,
against light and dungeons,
and this,
it seemed, is
I...
And to the frightened clamour
of a populous family of sparrows
we quietly depart from the picture,
from two different sides of the canvas –
and there, like ice-floes, is crushed
– having forgotten all caution,
surprised and exhausted –
the blind window-frame.

* * *

Усё гэта добра. Але згадайце –
тут колісь іначай,
тут лепш было.
Яшчэ ня слалі на долы рухомых,
лёгкіх кілімаў,
яшчэ пад сьнегам ніхто не губляў сьцежак,
і неба яшчэ не купалі ў зялёных шатах,
а ўжо не было спакою,
і больш таго –
як нож, як лязо, уразаўся промень!
... І незаўважна, і ціха-ціха,
як беспатрэбная... як пальчатка...
з дрыготкай... гарачай... прагнай рукі...
у часе тайнай кароткай стрэчы –
з галіны ліст на зямлю ляцеў.

* * *

All this is good. But remember –
here once it was different,
here it was better.
There had not yet been spred on the ground
movable, light carpets,
no one yet had lost his path under the snow,
and the sky had not yet been bathed
in green garments of trees,
but already there was no peace,
and moreover –
a ray pierced like a knife, like a blade!
...And unobserved, quietly, gently,
as if being discarded, like a glove
from a trembling... burning... craving hand
during a secret brief meeting –
there floated a leaf,
down from the branch to the ground.

## Савелію

Прыходзьце, калі сьцямнее,
ці сьвята будзе, ці будзень,
калі ў азалелых прысадах
прачнуцца на ноч ліхтары,
калі я астыгну ад клопатаў,
пазногця майго ня вартых –
глытком цыгарэтнага дыму
адзначу завершаны дзень...
Прыходзьце – і ўволю наплачцеся,
а я адшукаю рыфмы
да слоў “перестройка” і “гласность”.
Я ведаю, вы ня любіце
маіх грамадзянскіх строфаў,
ды ваш чырвоны аловак
зь іх болей ня выпусьціць кроў.
А сёньня прыходзьце прыцемкам,
прыходзьце ў сьлязах і ў возграх,
іх вам падатрэ старанна
мой ветлівы сакратар:
“... но, знаете, я сожалею, –
Татьян-Николавна заняты,
сейчас у нее совещание...
Зайдите, товарищ, завтра”.

## To Savelij

Come when dusk is falling,
whether feast day or working day,
when in the darkened avenues
the lamps wakes up for the night,
when I calm dow from chores
not worth my fingernail parings –
with a gulp of cigarette smoke
I mark the completed day...
Come – and weep to your heart's content,
and I shall find rhymes
for the words 'perestroika' and 'glasnost.'
I know that you do not like
my patriotic stanzas,
however, your red pen will
bleed them no more.
So come tonight at twilight,
come in tears and snivel,
and my polite secretary
will wipe your face clear of them.
"... But you know, I am sorry, –
Tatiana-Nikolayevna is busy,
she is in conference now...
Come back tomorrow, Comrade."

## Адам Глёбус

Кароткае лета нарэшце
завершыцца слотай.
О, мора маркоты!
Тут кожнаму месца сваё.
У гнёздах і норах,
у цесных вязьніцах кватэр
нікому нічога ня трэба,
апроч адзіноты.
І – болей за дзіва! –
бязьлюдная выспа кавярні,
дзе грае на скрыпцы
музыка з пакінутым тварам –
яму анічога ня трэба,
апроч адзіноты...
А скрыпка склікае на выспу
імклівы натоўп.

## Adam Globus

The brief summer at last
Has reached its conclusion in mire.
O sea of melancholy!
Here everyone has his place.
In nests and in dens,
and in the cramped prisons of flats,
no one has need of anything
except solitude.
And – more of a wonder –
the desolate isle of a cafe,
where a musician with a lost face
plays the violin –
he has no need of anything
except solitude...
But the violin calls to the isle
the impetuous crowd.

## Вецер

Нізкае неба ведае нешта чорнае,
ведае нешта большае
той, хто вышэй за неба.
А я наступаю на горла
мудраму беламу вершу
і вызваляю з формы
дзікі зьвярыны крык:
я не хачу волі!
я не баюся кайданаў!
я не памру ад самоты,
мой паратунак – тут!
... Ніжэй і ніжэй – неба,
на ім – ніводнага воблака,
на ім – разьліў фіялету
там, дзе звычайна – вецер.
Вецер – вышэй за неба.

## The Wind

The low sky knows of something black,
and the one who is higher than sky
knows something greater.
And I step on the throat
of a wise, white verse,
and release from the form
a wild animal cry:
I do not want freedom!
I do not fear of fetters,
I shall not die of loneliness,
my salvation is here!
...Lower and lower – the sky.
in them, not a cloud to be seen,
in them, in the usual place,
the wind has poured out violet.
Wind, higher than sky.

## Ашмянка

Мы доўга плылі на чаўне
па свавольнай рачулцы,
дзе белыя дрэвы стаялі ўсьцяж берагоў...
адзіныя сьведкі
шалёнай пяшчоты і млосьці,
вясёлая варта
кароткіх шчасьлівых хвілін.
Ды чорнай яліны між іх
апынулася дзіда –
яна пра сапраўдныя
нам нагадала гады.
Наперадзе лес,
там між дрэваў таемная змова,
там нехта маўклівы
мяне ад цябе забярэ.

## Ašmianka

We sailed for a long time in a boat
on a small and capricious river
where all along the banks
                    stood lines of white trees,
the only witnesses
of this crazy tenderness and languor,
a merry guards
of these brief moments of bliss.
Yet among them appeared a lance
of a black fir-tree,
to remind us
of our true age.
Ahead of us is a forest, where
a dark conspiracy is brewing between the trees.
There is someone silent
Who will take me from you.

## Лета

Раскалолася сонца
на тысячу белых сонцаў,
і падзерты, як ветразь, вецер
завіснуў у ніцым вецьці,
і гарачы асфальт карпатліва
адбіткі шляхоў зьбірае...
гэта – лета,
і вы паўтарайце: лета.
Покуль я вас люблю,
але гэта нядоўга, – лета...
Сны падобныя сталі да словаў,
што ўжо мінулі.
Зрэшты, кожнаму сну,
апрача летаргіі лета,
неабходны паўтор
і нязначныя зьмены ў ролях.
Але гэтак было –
так даўно, што даўно забыта,
і міне, і забудзецца новы
й наступны дзень,
і паўторыцца: “...сонца
на тысячу белых сонцаў”...
Гэта лета,
і вы паўтараеце: Лета...

## Summer

The sun has been split
into a thousand white suns;
and, ripped like a sail, wind
hangs in weeping branches,
and the hot asphalt carefully
gathers the imprints of paths...
This is summer,
and you repeat: Summer.
Now I love you,
but that is not for long – it is summer...
Dreams have become like words
that have already passed away.
But of course, for every dream –
apart from summer's lethargy –
a repeated performance is needed
with some slight changes of casting.
But this all was true
so long ago that is all long forgotten.
And will pass, and once more be forgotten
this and the next day too;
and it will be repeated: 'the sun...
into a thousand white suns'...
This is summer,
and you repeat: Summer.

## Савелію

Таму што патрэбнае слова – нішто,
калі яно позна прыходзіць,
таму што мінаюць гады і гадзіны,
а нашае месца – старое,
таму што няма дзівосьней пары
за брыдкую, брудную восень,
таму што блізкае полымя клёна
здаецца з вакна сапраўдным,
таму што я не дачка і ня сын,
а хто я – ніхто ня скажа...
Таму што ў добра пашытай спадніцы
галоўнае – доўгія ногі,
таму што гэткае глупства кажа
той, каму можна верыць,
таму што лісты прыходзяць ня часта
і вечар мой не кранаюць,
таму што зямля, на якой стаім,
ужо амаль што ня дыхае,
таму што няшмат засталося сэрца,
таму што дарога – за небакрай, –
вы мяне не пакінеце.

## To Savielij

Since a word, though needed, is nothing
if it should come too late,
since the years and the hours are passing,
and our place now is old,
since there's no more wondrous season
than ugly dirty autumn.
since the nearby flame of the maple
seems to be real from the window,
since I am neither daughter nor son,
though who I am – none can say,
since in a well-tailored skirt
long legs are most important,
since this stupidity tells me
who is to be believed,
since letters come infrequently
and my evening is not disturbed,
since the soil that we stand on
now hardly breathes at all,
since not much has remained of the heart,
since the road leads beyond the horizon –
you will not leave me.

## Цягнік

І я таксама,
калі пераліцць у возера возера,
і гатаваць на слабенькай газоўцы
доўга-доўга...
нібы малако для дзіцяці –
разам з усімі нарэшце прачнуся
на самай прыгожай,
канцовай, станцыі,
дзе ўжо не належу Вам,
але і сабе не належу.

## The Train

And I, too –
if to pour lake into a lake
and cook it on a weak gas-ring
long and slowly...
like milk for a child –
I'll – at last – wake up, along with others,
at the most beautiful,
final station,
where I no longer belong to you
nor belong to myself.

* * *

Няўжо няма інакшага шчасьця,
чым –
сінім і жоўтым зімовым вечарам,
паклаўшы спаць сьветлакосых дзетак,
глядзець у вочы ласкавага мужа,
Ваша імя паўтараць
і ведаць,
што мы ніколі ня будзем разам?

* * *

Is there no other happiness, truly,
than –
on a blue and yellow winter evening,
having put the fair-haired children to bed,
to look in my gentle husband's eyes,
repeat your name,
and know
that we shall never be together?

* * *

Божа, калі Ты ўбароніш мяне ад самоты?
Божа, калі Ты пачуеш літаньні мае?
Там, за дзьвярыма –
сьцягоў і паходняў віхуры,
там, за сьцяною –
сумоўем асьлеплены сьвет...
Мне б гэтых зьменлівых ветраў глыток –
і зажыць дзеля скону,
мне б толькі скінуць каханьня гадзюку
з грудзей...
Божа, калі Ты ўбароніш мяне ад самоты?
Божа, калі Ты пачуеш літаньні мае?
Божа, калі Ты пачуеш літаньні мае,
я не паверу тады у Тваё існаваньне.

* * *

O God, when wilt Thou protect me
against this loneliness?
O God, when wilt Thou listen to my litanies?
Outside the doors –
is the whirlwind of banners and torches,
outside the wall –
is a world blinded by unanimity...
If I had but a gulp of these changeable winds –
to live only for dying.
if I could shake off the serpent of love
from my breast...
O God, when wilt Thou protect me
against this loneliness?
O God, when wilt Thou listen to my litanies?
O God, when Thou wilt have listened to my litanies,
I'll not believe then in Thine existence.

* * *

Як вольна хвалюецца мора
ўрачыстых сьцягоў!..
як шчыра сваю перамогу
сьвяткуюць героі! –
вось гімну іх рэха
далёка разносіцца зноў,
і пырскае ў неба салют,
нібы сьвежая кроў;
і – палкія, мужныя –
клятвы мужчынаў гучаць,
і вострая вільгаць
пасуе жаночым вачам.
І дзіўна мне –
разам з усімі кудысьці ісьці
па бруку гарачым,
па мёртвым каляным лісьці,
шукаць і ня верыць,
што сябра пагляд мільгане,
і ведаць напэўна,
што ён не пазнаў бы мяне.

* * *

How freely this sea of festive
flags waves on high!..
how sincerely the heroes
rejoice in their victory! –
Again their hymn's echo
is borne far and wide,
and like fresh blood, a firework
pierces the sky;
and firmly and valiantly
men's oaths resound,
and a bitter moisture
befits women's gaze.
Strange for me –
to go with them all where they lead,
through the hot cobbled ways,
through dead channels of leaves,
to seek, unbelieving,
that a friend's swift glance I'll see,
knowing for certain
he will not recognize me.

## У Вільні

Блукаю па вузкіх вулках
старога роднага места
(Чаму ты ня тут, не са мною,
вялікі крывіцкі род?) –
І кожны мой крок паўтарае
акорды жалобнай мэсы,
так, кожны мой крок,
асьцярожны крок.
О, хваля харалу,
гатовая ўздыбіць дах,
і зьмесьці,
што помняць і славу, і здраду,
сьцены!..
З найлепшага цеста, мой Бог,
табою зьлеплены Бах.
Але, я прашу,
гавары са мною
на мове Шапэна.

## In Vilnia

I wander through narrow alleys
of my own ancient city
(Why are you not here, not with me
great tribe of the Kryvicy?) –
And my every step re-echoes
harmonies of the Requiem Mass,
yes, my every step,
every careful step.
O wave of chorales.
ready to rip off the roof,
to unseat
walls that remember glory and also
betrayal!
from the finest kneaded dough, God,
Thou didst surely form Bach,
but, I implore,
speak to me
in the language of Chopin.

* * *

Калі ўдача цябе пакіне,
і жана дарагая, і дочка,
за гарой застанецца Вільня,
за гарою прачнешся аднойчы
у пакоі, між мяккіх цацак
і вясёлых, з карцінкамі, кніжак.
Нешта можа заўжды заставацца
для жывых. І для іншых.

* * *

When good luck departs from you
and dear wife and daughters leave,
beyond the hill will remain Vilnia,
beyond the hill you will awaken
in a room, amid soft toys
and merry books bedecked with lace.
Something always remains
for the living. And for others.

## Зьмест

## Contents

**Сьцісла пра аўтара:**

Тацяна Сапач,
паэтка, журналістка, перакладчыца.
Нарадзілася 26 жніўня 1962 году ў вёсцы Маркава
(Маладэчанскі раён), скончыла журфак БДУ.
У войску не служыла, замест гэтага выйшла замуж,
нарадзіла дачку, працавала на Берасьцейскай
і Гомельскай тэлестудыях (1982–87).
Заснавальніца і аўтарка культуралагічнай праграмы
"Альбаросіка" на Беларусім радыё (1987–89),
супрацоўніца радыё "Балтыйскія Хвалі" (2000–2001),
адная з аўтарак перадачы "Палітычная геаграфія"
на Радыё Свабода (з 2005),
рэдактарка і аўтарка праграмы "Віленскі сшытак"
на Літоўскай нацыянальнай тэлевізіі (з 1991),
аўтарка літаратурных перакладаў
з літоўскай і польскай моваў.
Жыве ў Вільні.
У 1992 годзе выйшаў зборнік паэзіі "Восень".

**About the author:**

Taciana Sapač
a poet, journalist and translator –
was born on August 26, 1962 in Markava village
in the historic Belarusian region of Vilienščyna.
She lives in Vilnia (Lithuania)
with her husband, Siarhiej Dubaviec,
and daughter, Adelia.

*У серыі*
*“Бібліятэчка часопісу “Дзеяслоў”*
*выйшлі кнігі:*

1. Анатоль Івашчанка. “Вершnick”.
2. Васіль Быкаў. “Бліндаж”.
3. Усевалад Сьцебурака. “Крушня”.
4. Сяргей Дубавец. “Вершы”.
5. Анатоль Кудравец. "За дальнім прычалам".
6. Леанід Дранько-Майсюк. “Цацачная крама”.
7. Сяргей Прылуцкі. “Дзевяностыя forever”.
8. Галіна Дубянецкая. “Анадыямэна”

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэчка часопісу "Дзеяслоў"
Выпуск 9

**Тацяна Сапач**

# Няхай не пакіне нас Восень

Вершы

**Taciana Sapač**

# Do not abandon us, Autumn

Poems

Translated by *Vera Rich*

Адказны за выпуск *Уладзіслаў Сілянок*

Рэдактар *Барыс Пятровіч (Сачанка)*
Мастак *Генадзь Мацур*
Вёрстка *Герман Гайдніш*
Карэктар *Тацяна Сушчэўская*

Здадзена ў набор 20.05.2008 г. Падпісана да друку 17.06.2008 г.
Фармат 84х108 $^1/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Petersburg.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 4,2. Ул.-выд. арк. 1,3.
Наклад 300 асобнікаў. Заказ № 305

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
сумеснае таварыства з аьмежаванай адказнасцю "Медисонт",
ЛИ №02330/0133391 ад 19.07.04.
ЛП №02330/0056748 ад 22.01.04.
Вул. Цiміразева, 9, 220004, Мінск.